# КРЫВІНКА

КАСТРЫЧНІК
№ 15 (205)
2017 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

# ЗІГЗАГІ КАР'ЕРЫ ЛЕАНІДА ПЯНЬКОЎСКАГА

**Леанід Пянькоўскі нарадзіўся ў 1968 годзе ў вёсцы Баўсевічы Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1993 годзе скончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут па спецыяльнасці «Заатэхнія», у 2003 годзе — Акадэмію кіравання. Доўгі час працаваў старшынёй калгаса на Аршаншчыне. У 2005—2008 быў першым намеснікам старшыні Гарадоцкага райвыканкама. У 2008—2017 узначальваў Бешанковіцкі райвыканкам.**

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25-га сакавіка 2016 года за шматгадовую плённую працу і ўзорнае выкананне службовых абавязкаў Леаніду Пянькоўскаму прысвоена ганаровае званне «Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь». 12-га мая 2017 года Леанід Пянькоўскі быў вызвалены ад абавязкаў старшыні Бешанковіцкага і прызначаны старшынём Аршанскага райвыканкама.

Ужо праз 10 дзён пасля гэтага прызначэння з чыноўнікам адбыўся інцыдэнт. Як адзначыла Адміністрацыя Прэзідэнта, " у сілу знаходжання ў хваравітым стане, некаторы час Пянькоўскі не выходзіў на сувязь. Прадстаўнікі праваахоўных структур пранікла ў дом, дзе знаходзіўся Леанід Пянькоўскі, з мэтай ўстанаўлення яго месцазнаходжання. Пянькоўскі ў той момант знаходзіўся па месцы пражывання сваякоў у горадзе Оршы."

Менш чым праз тры месяцы пасля прызначэння, 7-га жніўня, Лукашэнка мяняе сваё рашэнне і звальняе Леаніда Пянькоўскага з пасады старшыні Аршанскага райвыканкама. Што паслужыла падставай для звальнення, мы так і не даведаліся.

Пасля гэтага звальнення па раёне паплылі чуткі, што супраць Пянькоўскага ўзбуджаюць крымінальную справу за ягоныя "бешанкоўскія грахі". Але тыя, хто ўжо бачыў крыж на кар'еры чыноўніка, памыліліся.

5-га кастрычніка былы старшыня Бешанковіцкага райвыканкама Леанід Пянькоўскі пачаў кіраваць гаспадаркай-гігантам Бешанковіцкага раёна ЗАТ "АграНаватар". Прычым аніякай інфармацыі ў СМІ наконт прызначэння на новую пасаду да гэтага часу так і не з'явілася. Пянькоўскі прыступіў да працы – і ўсё. А былы кіраўнік «Наватара» Дзмітрый Петрашка звольніўся з гаспадаркі і ўладкаваўся на працу ў Віцебскі раён, дзе працуе кіраўніком сельгаспрадпрыемства ААТ «Агратруд».

У тэлефоннай размове ён паведаміў мне, што звольніцца з «Наватара» было яго асабістым рашэннем, і не трэба шукаць тут аніякага іншага матыву.

Вось так за нейкія 5 месяцаў Леанід Пянькоўскі перажыў узлёт і падзенне. Ці звязана ягонае "падзенне" з нейкай крымінальнай справай – невядома. Маўчанне сродкаў масавай інфармацыі толькі падівае алей у вогнішча розных чутак. Аб праўдзе мы можам толькі здагадвацца.

P.S. У Аляксандра Лукашэнкі ёсць такі метад перавыхоўвання зарваўшыхся кіраўнікоў – адсылаць тых кіраўнікамі гаспадарак. Узяць хаця б нядаўнюю крымінальную справа аб карупцыі ў дачыненні да старшыні Чашніцкага раённага выканаўчага камітэта Уладзіміра Булая, якую распачалі ў верасні 2015 года. Ён абвінавачваўся ў злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі, даваў указанні кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый Чашніцкага раёна аб перадачы яму і членам яго сям'і таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў, а таксама аказанні і прадастаўленні паслуг без іх фактычнай аплаты. Але ўжо праз 4 месяцы (у студзені 2016 года) спадар Булай «усплыў» у якасці дырэктара ААТ «Кляновічы» у Крупскім раёне Мінскай вобласці.

**Г.Станкевіч**

********

*Кастрычнік. Ноч. У вокнах ні агню.*
*У 37-м годзе ў ноч такую*
*ўзвялі на эшафот будучыню,*
*прыгожую, як сон, і маладую.*

*Крывавым золкам дыхала зямля,*
*і сонца хвалявалася на ўсходзе:*
*"Калі народа мову расстраляць,*
*што застанецца ад таго народа?"*

*Кастрычніцкая ноч плыве на злом,*
*і золкі вецер думак*
*ройва студзіць…*
*Ніколі каб яно не ажыло,*
*стралялі слову кожнаму – у грудзі.*

*Каб смела не гучала анідзе –*
*ад Берасця да самага Валдая –*
*ні вольнае раскацістае "дзе",*
*ні ціхае пяшчотнае "кахаю".*

*Забойцы надыходзячых вякоў,*
*прызваныя з нябыту чорнай сілай,*
*шпурлялі ненапісаных радкоў –*
*мільёны – у глыбокія магілы.*

*Закопвалі, спяшаючыся, каб*
*яны сказаць не здолелі народу,*
*што слава яго слынная ў вяках,*
*што зорка яго светлая ўзыходзіць.*

*Кастрычнік. Ноч. І вусцішная ціш.*
*Не сплю, бо сэрцам скрушным*
*адчуваю,*
*што куля з 37-га ляціць,*
*ўсё забівае нас,*
*ўсё забівае.*

***Г.Станкевіч***



ПРАКУРОРСКІ НАГЛЯД

# ПРА НЕБЯСПЕЧНЫЯ КАЗЫРКІ І Г.Д.

**Пракуратурай Бешанковіцкага раёна накіравана прадстаўленне ў УКП ЖКГ "Бешанковіцкі камунальнік" з патрабаваннем ліквідацыі недахопаў у сферы карыстання і захоўвання жыллёвага фонду Бешанковічаў.**

29-га верасня на сайце райвыканкама з'явілася інфармацыя аб праверцы пракуратурай Бешанковіцкага раёна жыллёвага фонду райцэнтра. Праверка ахапіла дамы па вуліцы Чарняхоўскага, Будаўнікоў і Урыцкага.

Адзначана, што на асобных элементах брылёў ("козырьков") пад'ездаў жылога дома № 4 па вуліцы Будаўнікоў (пад'езд № 3), № 25 па вуліцы Чарняхоўскага, (пад'езд № 1), №34 па вуліцы Чарняхоўскага, (пад'езд №3) маюцца значныя пашкоджанні жалезабетону, месцамі агалена арматура, бачныя сляды карозіі.

Па вуліцы Чарняхоўскага ў пад'ездзе 3 дома №36 і пад'ездзе 2 дома №38 небяспечныя брылі пад'ездаў.

У пад'ездах 1 і 2 жылога дома № 34 па той жа вуліцы, пад'ездзе 3 дома № 40, у доме № 24, пад'ездзе 1 дома № 8, а таксама ў доме № 92 па вуліцы Урыцкага частка жалезабетоннай сцяны і казырка з-за ўздзеяння ападкаў дэфармаваная і абсыпаецца, арматура, што агалілася, мае сляды іржы.

У склепе дома № 30 па вуліцы Чарняхоўскага пры абследаванні выяўлена значнае падтапленне. Акрамя таго, у цокальнай пліце дома выяўленыя расколіны.

Пры абследаванні пад'езда №3 дома № 90 па вуліцы Урыцкага выяўлена павелічэнне вільготнасці сцен жылога дома на ўзроўні першага-другога паверхаў. Устаноўлена, што ў склепе названага пад'езда сабралася значная колькасць вады. Ідзе пераўвільгатненне цокальных пліт і сцен - як вынік наяўнасць цвілі і расколін у тынкоўцы.

У ходзе маніторынгу ўстаноўлена, што ўваходныя дзверы пад'езда № 1 жылога дома № 27 па вуліцы Чарняхоўскага знаходзіцца ў аварыйным стане, завесы трымаюцца на цвіках, забітых жыхарамі дома.

Адзначаецца, што парушэнні заканадаўства ў сферы выкарыстання і захавансці жыллёвага фонду носяць відавочны характар і могуць нанесці істотную шкоду правам і законным інтарэсам грамадзян.

Па выніках праведзенай праверкі пракуратурай раёна накіравана прадстаўленне ў УКП ЖКГ «Бешанковіцкі камунальнік» з патрабаваннем ліквідацыі допушчаных парушэнняў.

**М.Васільеў**

ГАНДАЛЬ

# БАНКРУТСТВА СІСТЭМЫ РАЙПО

**Як піша шумілінская раённая газета, ні для каго ўжо не з'яўляецца сакрэтам, што сістэма спажывецкай кааперацыі ў Шумілінскім раёне знаходзіцца ў стадыі глыбокай дэпрэсіі. Таму і пачалася яе рэарганізацыя.**

На мінулым тыдні ў Шумілінскім райвыканкаме прайшла рабочая нарада. Галоўнай тэмай размовы стаў лёс Шумілінскага райспажыўтаварыства.

Кіраўніцтва раёна адзначыла, што ўзровень работы кааператыўнага гандлю ў раёне ўпаў: у агульным аб'ёме тавараабароту доля райпо знізілася да 14%, колькасць закрытых магазінаў ідзе на дзясяткі, узнікаюць пытанні па забяспячэнні насельніцтва таварамі паўсядзённага попыту. "Хацелася б пачуць ад кіраўніцтва аблспажыўсаюза меркаванні і планы наконт далейшага лёсу сістэмы кааператыўнага гандлю ў нашым раёне, асабліва ўлічваючы той факт, што ў сельскай мясцовасці райспажыўкааперацыя застаецца на вядучых ролях", – падкрэсліў Аляксандр Снараў, старшыня райвыканкама.

Аляксандр Пуцята, старшыня аблспажыўсаюза, пацвердзіў, што Шумілінскае райпо фактычна апынулася ў сітуацыі банкруцтва, таму зараз ідзе ўпарадкаванне ўсіх спраў, улік актываў, падрыхтоўка да афіцыйнага абвяшчэння працэдуры банкруцтва, на што патрэбна некалькі месяцаў. Шумілінскаму райпо пакінулі некалькі магазінаў у райцэнтры, каб даць магчымасць распрадаць акцызныя тавары і мець сродкі на бягучыя расходы. Але, як сказаў кіраўнік аблспажыўсаюза, галоўную задачу абласны саюз бачыць у тым, каб захаваць прысутнасць спажывецкай кааперацыі ў Шумілінскім раёне праз перадачу гандлёвых аб'ектаў ад Шумілінскага да Бешанковіцкага райспажыўтаварства. У аблспажыўсаюзе разумеюць сацыяльную функцыю, якую выконвае спажывецкі гандаль на сяле. Было сказана, што такая сітуацыя склалася яшчэ ў некалькіх раёнах, і там яна вырашаецца такім жа шляхам.

На нарадзе быў дэталёва разгледжаны комплекс пытанняў і прыняты рашэнні, якія б праяснілі і канкрэтызавалі сітуацыю, не пагоршылі становішча насельніцтва, асабліва вяскоўца. "У першую чаргу, людзей і кіраўніцтва раёна хвалюе закрыццё магазінаў нават у буйных населеных пунктах, дзе пражывае ад ста да трохсот пяцідзесяці чалавек – Прыазёрная, Язвіна, Лескавічы, Пабеда, Грудзінава, вострa паставілі пытанне па магазіну жыхары Казьян і навакольных вёсак, гэтыя ж пытанні таксама непакояць

*(працяг на стар. 2)*

ГАНДАЛЬ

*(пачатак на стар. №1)*
жыхароў маланаселеных і аддаленых вёсак", – адзначыла Ірына Новікава, старшыня Шумілінскага раённага савета дэпутатаў.

Стацыянарныя магазіны. Прадстаўнікі спажыўкааперацыі патлумачылі, што сітуацыя з гандлёвым абслугоўваннем насельніцтва ў населеных пунктах раёна была падрабязна вывучана, прынята рашэнне, што там, дзе існуе моцны прыватны гандаль, дзе з-за канкурэнцыі пазіцыі райпо страчаны, магазіны райспажыўтаварыства будуць зачынены. Бешанковіцкае райпо не возьме на абслугоўванне магазіны ў Обалі, Мікіцісе, Шуміліне. Шэраг магазінаў не працуюць з-за адсутнасці прадаўцоў, і знайсці кадры Шумілінскаму райпо не ўдалося (Прыазёрная, Язвіна). Калі вырашыцца пытанне з кадрамі, то можна будзе весці гаворку пра адкрыццё некаторых магазінаў. Што тычыцца магазіна ў Казьянах, то там малы гандлёвы абарот, які не забяспечвае акупнасць гандлёвай кропкі, таму гэтая зона будзе абслугоўвацца аўтамагазінам.

Пасля вострага абмеркавання бакі дамовіліся пра адкрыццё магазінаў пры наяўнасці прадаўцоў спачатку ў Язвіне, Прыазёрнай, Пабедзе, пазней – у Лескавічах. Будзе вывучана магчымасць адкрыцця магазіна ў Грудзінаве.

Аўтамагазіны. Аляксандр Пуцята і Галіна Галенка падкрэслілі, што ў тых жа Казьянах, Цаўях гандлёвае абслугоўванне будзе ажыццяўляцца аўтамагазінамі. Можна зразумець мясцовых жыхароў, якія прывыклі мець магчымасць у любы момант схадзіць у магазін, але эканамічнай мэтазгоднасці на іх утрыманне няма. Ставіцца задача, каб аўтамагазіны мелі годны асартымент і дастатковую колькасць тавараў на ўвесь маршрут. Кіраўнік райспажыўтаварыства сказаў, што раён да чатырох аўтамагазінаў, якія ёсць, атрымае яшчэ два сучасныя аўтамабілі са спецыяльным гандлёвым і халадзільным абсталяваннем. Гэта дазволіць забяспечыць усе маршруты, там, дзе будзе больш попыт, можна будзе павялічыць частату абслугоўвання. Пакуль што графікі і маршруты знаходзяцца ў стадыі адпрацоўкі, і могуць узнікаць пэўныя недарэчнасці. Бешанковіцкае райпо гатова перагледзець графікі работы аўтамагазінаў з улікам прапаноў сельвыканкамаў.

Грамадскае харчаванне. Захаваць аб'екты грамадскага харчавання не плануецца, адзначыў кіраўнік аблспажыўсаюза. Шумілінскае райпо гатова здаць у арэнду ці прадаць "Блюз", сталовая "Дабееўскі мох" пакуль працуе.

На пытанне аб захаванні буфета ў цэнтральнай бальніцы прагучала абяцанне вырашыць яго станоўча, бо гэты аб'ект можа быць прыбытковы пры наяўнасці належнага асартыменту, які будзе забяспечвацца з Бешанковічаў.

Лёс закрытых магазінаў. Як адзначыў кіраўнік аблспажыўсаюза Аляксандр Пуцята, Шумілінскае райпо гатова разглядзець любыя прапановы па арэндзе ці продажы гандлёвых аб'ектаў як у гарадскіх пасёлках, так і ў сельскай мясцовасці. Так, ужо ёсць дамоўленасці з такімі вядомымі брэндамі як "Остров чистоты", "Лагуна" ("АМИ мебель"), некаторымі іншымі. Устаноўлены прымальныя тарыфы на арэнду. Любыя камерцыйныя структуры, індывідуальныя прадпрымальнікі могуць звяртацца са сваімі прапановамі ў райспажыўтаварыства, яны будуць разгледжаны.

Наогул, як сказала старшыня Бешанковіцкага райспажыўтаварыства Галіна Галенка, яна супрацоўляецца павелічэнню колькасці магазінаў таму, што трэба ствараць сучасныя гандлёвыя аб'екты, прывабныя і зручныя для пакупнікоў і работнікаў гандлю. Многія ж шумілінскія магазіны маюць непрывабны выгляд, іх трэба рамантаваць, даводзіць да толку, і паступова гэта будзе рабіцца, але прадпрыемства не мае сродкаў, каб паправіць усё разам. Да таго, трэба аператыўна вырашаць пытанні з рамонтам печаў, падвозам дроў у магазіны, іншыя неадкладныя праблемы.

Яна запэўніла кіраўніцтва раёна, што Бешанковіцкае райпо будзе працаваць над асартыментам аўтамагазінаў, каб пакупнікі былі задаволены. Калі людзі атрымаюць у аўтамагазіне ўсе неабходныя тавары, яны не будуць шкадаваць аб зачыненым магазіне.

Першы месяц работы магазінаў, якія ўжо перайшлі ў падпарадкаванне Бешанковіцкага райспажыўтаварыства, паказаў, што там палепшыўся асартымент, знізіліся цэны, і прадаўцы, і, самае галоўнае, пакупнікі задаволены.

**Сяргей Ермалаеў,**
**галоўны рэдактар**
**шумілінскай раённай газеты.**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ЦІ МОЖНА АПРАНУЦЦА І АБУЦЦА Ў БЕШАНКОВІЧАХ?

**У якіх крамах, дзяржаўных або прыватных, апранаюцца жыхары нашага райцэнтра? Чым і як завабліваюць і тыя, і іншыя? Каб гэта высветліць, карэспандэнт «Сельскай газеты» прайшлася па гандлёвых кропках Бешанковічаў, выслухала меркаванні прадаўцоў і пакупнікоў.**

У гэты раз мяне цікавіла, ці можна апрануцца і абуцца звычайнаму чалавеку з сярэднім дастаткам, не выязджаючы ў Віцебск, да якога ад гарадскога пасёлка 50 кіламетраў, а квіток у адзін бок на аўтобусе каштуе крыху больш трох рублёў.

Ва ўнівермагу пустых прылаўкаў не ўбачыла - для гарадскога пасёлка, якім і з'яўляюцца Бешанковічы, магазін даволі нядрэнны. Толькі вось пакупнікоў практычна няма. Прадукцыя тут у асноўным беларускіх вытворцаў. Няма ў іх і перадаплаты на закупку, што таксама па цяперашніх часах немалаважна. У асноўным гэта тычыцца адзення, акрамя дзіцячай школьнай формы. Вось на яе, калі не паспеў прадаць да сезону, вяртання няма. Запасаў са старых калекцый і леташніх сезонаў хапае, нават зніжкі робяць, але густы ў пакупніка мяняюцца, не ўсе хочуць набываць нямодныя рэчы. Натуральна, гэта ўплывае і на прыбытак.

Што б магла асабіста для сябе купіць? Маленькая чорная сукенка без «прыбабахаў», простая і акуратная, каштуе 53 рублі. Перабраўшы некалькі пар ботаў з восеньскім прыцэлам, патрэбны памер і жаданы фасон не знайшла.

Канкурэнтаздольнасць беларускіх вытворцаў, па словах тавараразнаўцы і прадаўцоў, за апошні час значна ўпала. У жніўні завезлі партыю жаночых туфляў «Нёмана», ніводнай пары не прадалі. Цана высокая, пакупнікі скардзяцца, што туфлі жорсткія і цяжкія. На ўвесь тавар, выраблены да 2015 года, зніжка 20 адсоткаў. Але, як аказалася, нягледзячы на рэкламныя аб'явы на дзвярах універмага, на іх надзяўца нямногія, а некаторыя нават пра гэта не ведаюць.

Асартымент акцыйнага тавару невялікі, у асноўным школьная форма. Адзінае, што мне спадабалася, дык гэта "Маркаўскія" дзіцячыя боцікі за 74 рублі без уліку зніжкі. Цэны на абутак для малых кусаюцца, няхай ён нават і скураны. За сандалікі для падгадаванага дзіцяці прыйдзецца выкласці 35 рублёў. Асартымент іх вялікі, але яны так і стаяць незапатрабаваныя. Паглядзела курткі і паліто - ня ўбачыла нічога, на што можна было б звярнуць увагу, замала памераў і мадэляў, а новыя яшчэ не завезлі. Цэны звыш 100 рублёў. У канцы залы небагаты абутковы шэраг. Новага завозу пакуль не было, са старога выбар бедны і абмежаваны памерамі.

У райпо свой швейны цэх, прадукцыя якога займае цэлы прылавак. Пасцельную бялізну шыюць якасна, з баранавіцкай бавоўны, але кошт за камплект «двухспалкі» даходзіць да 70 рублёў. Пакупнікі ў асноўным заезджыя расейцы: мясцовым жыхарам не разагнацца на куплю. Да прыкладу, на тым жа рынку за такую цану можна набыць два камплекты, хай і горшай якасці.

Заходжу ў адну з прыватных крамаў. Пакупнікоў тут пабольш, нешта мераюць, выбіраюць. І зноў жа зважаю, многія з іх якасць тканіны вызначаюць толькі навобмацак, этыкетку не чытаюць. Хіба толькі цану на ёй паглядзяць. Цікаўлюся ў маладой дзяўчыны, дзе яна прывыкла атаварвацца. Адказвае, што ў мясцовым універмагу была пару разоў. Часцей за ўсё ў сваіх прыватнікаў або едзе ў Віцебск. Там калі і дзяржаўная крама, то выбару і скідак значна больш.

**Наталля Часавіціна**

НАША ЖЫЦЦЁ

# «НЕ ДАЙЦЕ ВУЛЕ ЗАЧАХНУЦЬ!»

**Дарогі праграйдаруюць, прыпынак адрамантуюць, расклад руху аўтобусаў заменяць. Вула засвеціцца агнямі. Толькі месцаў для купання вуллянам пакуль што не абяцаюць. У Вуле прайшоў першы выязны прыём новага старшыні Бешанковіцкага райвыканкама.**

Навядзенне парадку на зямлі, арганізацыя збору цвёрдых бытавых адкідаў (ЦБА), лёс кінутых дамоў, рамонт дарог, утрыманне жылфонду, занятасць насельніцтва і іншыя пытанні былі адрасаваныя Андрэю Булаўкіну падчас сустрэчы з насельніцтвам, якую ён правёў у Ульскім СДК.

Напрыклад, ураджэнка Вулы Галіна Ліхачова, якая апошнія 50 гадоў жыве ў Санкт-Пецярбургу, але рэгулярна бывае на малой радзіме і душой хварэе за родны пасёлак, папрасіла: «Не дайце Вуле зачахнуць, дапамажыце, каб аграгарадок квітнеў і развіваўся» — і агучыла, на яе думку, шэраг праблемных пытанняў.

Галіна Ягораўна казала пра тое, што ў Вуле ёсць пустуючыя аварыйныя хаты, якія кінутыя спадкаемцамі або зусім не маюць гаспадароў, тэрыторыі каля будынкаў зарастаюць быльнягом, ёсць і запушчаныя агароды. Усё гэта стварае пажаранебяспечную сітуацыю.

«Мясцовая ўлада павінна звярнуць увагу на безгаспадарныя будынкі, кінутыя агароды і навесці парадак на зямлі, магчыма, нават прыняць строгія меры ў адносінах да нядбайных гаспадароў», — выказала прапанову Г. Ліхачова. Таксама жанчына прасіла дапамагчы арганізаваць месца для купання і зону адпачынку ля вады (тут працякаюць дзве ракі — Дзвіна і Вула), адрамантаваць вуліцу Першамайскую, падняла пытанне стварэння працоўных месцаў, працы вулічнага асвятлення.

Па кожнай з агучаных праблем старшыня райвыканкама даў заяўніцы тлумачэнні і грунтоўна адказаў. Як вядома, не толькі ў Вуле, але і ў цэлым па раёне вядзецца праца па пошуку уладальнікаў безгаспадарных дамоў і зносе састарэлага жылля, канфіскацыі зямельных участкаў, што адводзіліся мясцовым жыхарам або дачнікам пад агародніцтва, а цяпер пустуюць, уключэнню зямель у севазваротгаспадарак раёна або пераразмеркаванне іх паміж грамадзянамі. Заканадаўча прапісаныя гэтыя працэдуры. Усё робіцца ў адпаведнасці з літарай закона, праца ў гэтым напрамку і далей будзе працягнутая.

«Да арганізацыі месца для купання трэба падыходзіць з улікам таго, што ў Вуле знаходзіцца ліцэй, дзе навучаюцца непаўнагадовыя. Трэба ўзважыць усе" за «і» супраць", каб пазбегнуць трагедый на вадзе«, — пазначыў сваю пазіцыю Булаўкін. Вывучыць пытанне даручана РЦГЭ, раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, УКП ЖКГ «Бешанковіцкі камунальнік», АСВОДу. Да яго кіраўнік раёна паабяцаў вярнуцца вясной наступнага года.

Вуліцу Першамайскую і іншыя дарогі даручана праграйдараваць ДРБУ-110 у кастрычніку. Што тычыцца вулічнага асвятлення, то ўжо пададзены заяўкі на яго падключэнне. Работы вядуцца ў сельсаветах паэтапна. А 18-га кастрычніка засвеціцца агнямі і Вула. Пытанне знаходзіцца на асабістым кантролі старшыні райвыканкама і старшыні Вульскага сельвыканкама.

Л. Рудых узняла пытанне збору цвёрдых бытавых адкідаў і папрасіла ўсталяваць кантэйнеры замест арганізацыі збору адкідаў машынай ЖКГ па графіку, бо смеццявозу нязручна ездзіць па вузкім завулку, а таксама вярнулася да пытання навядзення парадку каля кінутых дамоў. Жанчыне дадзены тлумачэнні, пытанне збору ЦБА узята на кантроль.

Раіса Хлопенец засяродзіла ўвагу на пытаннях транспартных зносін. Яна прасіла адрамантаваць прыпынак, замяніць расклад руху аўтобусаў, каб пажылыя людзі маглі яго з лёгкасцю прачытаць, а таксама перагледзець графік руху аўтобуса з Бешанковічаў на Вулу ўнядзелю. Адрамантаваць прыпынак і замяніць расклад даручана АТП-21. Што тычыцца змены руху аўтобуса, то будзе вывучаны пасажырапаток і меркаванне мясцовых жыхароў, пасля чаго прымуць канкрэтнае рашэнне.

Жыхары дома № 30 з вуліцы Каранеўскага прасілі абтынкаваць і пафарбаваць фасад іх дома. Пытанне узята на кантроль, заяўнікам паабяцалі вярнуцца да яго разгляду ў наступным годзе.

**Анжэла Людына**
**"Зара"**

## АБ'ЯВА

• *Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

• *Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

• *Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

УЛАДА

# ЦІ ЁСЦЬ ВАРЫЯНТЫ ЗМЕНЫ ЎЛАДЫ?

**Здавалася б, сама пастаноўка пытання дзіўная. Бо ў дэмакратычным свеце існуе прапісаны ў Канстытуцыі стандартны спосаб змены ўлады праз выбары. Але ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі гэты механізм заблакаваны. Сапраўдных выбараў тут няма, легальны, легітымны спосаб змены ўлады немагчымы.**




Тады якія існуюць іншыя, нелегітымныя, неінстытуцыянальныя сродкі і механізмы ўладных пераменаў? Яны ёсць — апісаны ў палітычнай літаратуры, шмат разоў адбываліся ў гісторыі.

Найперш, канечне, рэвалюцыя. Гэта калі народ выходзіць на вуліцы і зрынае існую ўладу. Як тое было 100 гадоў таму ў Расіі ці тры гады таму ва Украіне падчас другога Майдану.

Ужо даводзілася пісаць, што выбух народнага незадаволення — рэч непрадказальная і непрагназуемая. На мой погляд, беларусы саспелі, каб на выбарах прагаласаваць супраць Лукашэнкі, але не саспелі да рэвалюцыі. Хоць Лукашэнка вельмі баіцца вулічнага пратэсту, заўсёды рэагуе на яго вельмі хваравіта.

Варта заўважыць, што, увогуле, беларускае грамадства, паводле сваёй сацыяльнай прыроды з пэўным піетэтам ставіцца да дзяржавы, да парадку, які яна ўвасабляе. Таму верагоднасць рэвалюцыйнай змены ўлада нам падаецца невысокай.

Іншы варыянт нелегітымнага зрынання існага палітычнага рэжыму — дзяржаўны пераварот. Ён магчымы толькі з дапамогай сілавых структур.

АлеўБеларусі, у адрозненне, напрыклад, ад краін Лацінскай Амерыкі ці Турцыі, няма традыцыі ўмяшання войска ў палітычнае жыццё. Да таго ж у нашай краіне існуе, паводле маіх падлікаў, 9 (дзевяць!) структур з правам аператыўна-вышуковай дзейнасці. Усе яны сочаць адна за адной, а кіраўнікі падпарадкаваны непасрэдна Лукашэнку. У такіх умовах здзейсніць пераварот вельмі цяжка.

Апошнім часам шмат размоваў і публікацый наконт таго, што, магчыма, хутка Лукашэнка перадасць уладу нейкаму пераемніку. Хацелася б спыніцца на гэтым пытанні больш падрабязна.

Пытанне пра пераемніка ўсплывае ў асяроддзі палітызаванай публікі ў пэўныя моманты, калі здаецца, што яно набывае актуальнасць. Пра яго шмат казалі ў перыяд паміж 2001 і 2004 гадамі, калі Лукашэнка ўступіў у свой другі прэзідэнцкі тэрмін, а ў Канстытуцыі захоўвалася абмежаванне на займанне прэзідэнцкай пасады адным чалавекам. Потым з'яўленне Віктара Лукашэнкі як палітычнай фігуры актуалізавала гэтыя развагі. Зноў на гэтую тэму пачалі гаварыць пасля таго, як Пуцін саступіў пасаду прэзідэнта РФ Мядзведзеву. Ужо гэтым годам кіраўнік Беларусі падчас размовы з галоўным рэдактарам «Народнай волі» Іосіфам Сярэдзічам казаў, што задумваецца над тым каб сысці са сваёй пасады.

Адразу хачу адзначыць, што рэалізацыя такога варыянту ва ўмовах сённяшняй Беларусі выглядае малаdensitaльнай па некалькіх прычынах. Найперш, у пастаці Аляксандра Лукашэнкі мы маем справу з чалавекам, у якога велізарная прага да ўлады. Для яго ўлада — гэта не толькі сэнс жыцця, але адзіна магчымы спосаб існавання. Ён увесь час атаясамлівае адхіленне яго ад улады з пагібеллю і кажа, што будзе абараняць сваю пасаду са зброяй, нават калі застанецца адзін.

Але нават калі раптам увявіць неверагоднае, што Лукашэнка стаміўся ад улады і захацеў бы яе пакінуць, то ўзнікае адна вялізная праблема. За чвэрць стагоддзя знаходжання на пасадзе ён вельмі шмат наварочаў, таму непазбежна ўзнікне пытанне аб адказнасці. Знойдзецца шмат людзей, прычым, не абавязкова з апазіцыі, каб з ім палічыцца. У выніку нельга выключаць, што пасля адстаўкі ён можа аказацца ў ролі падсуднага. Ці можна гэтага пазбегнуць, неяк гарантаваць недатыкальнасць з дапамогай заканадаўчых механізмаў ці асабістых абяцанняў ад пераемніка? Усё гэта зрабіць можна, аднак узнікае шэраг праблемаў.

Па-першае, як любы аўтарытарны кіраўнік, дзейны беларускі лідар нікому не верыць, падазрае ўсіх у нелаяльнасці, здрадзе. Ён ніводнаму чалавеку не зможа даверыць свой лёс.

Па-другое, ён разумее, што ў палітыцы любыя гарантыі і дамоўленасці з'яўляюцца адноснымі. Іх захоўванне зале¬жыць не ад ступені юрыдычнага замацавання, а ад суадносін палітычных сілаў. Любы закон ці нават артыкул канстытуцыі можна адмяніць. Аўгуста Піначчэт у Чылі перад сваёй адстаўкай стварыў шматпавярховую сістэму гарантый уласнай недатыкальнасці. Аднак ад турмы яго выратавала толькі смерць. Вельмі шмат прыкладаў, як пад суд трапляюць былыя дыктатары.

Па-трэцяе, існуе варыянт, калі лідар сыходзіць са сваёй пасады фармальна, перадае ўладу «зіц-старшыні», застаючыся рэальным кіраўніком. Гэта магчыма, калі чалавеку не вельмі важныя вонкавыя атрыбуты ўлады, ён нармальна сябе пачувае ў статусе «шэрага кардынала». Як Уладзімір Пуцін у Расіі на чатыры гады перадаў пасаду прэзідэнта Дзмітрыю Мядзве-дзеву. Але гэта яўна не наш варыянт.

Нарэшце — гэта ўжо па-чацвёртае — схема «Пераемнік» не спрацуе і па прычыне сістэмнага характару. Існуюць розныя тыпалогіі аўтарытарных рэжымаў. Для нашага выпадку важны падзел на алігархічныя і персаналісцкія рэжымы…

Гістарычны досвед апошніх ста гадоў паказвае, што, як правіла, калі сыходзіць дыктатар, які доўгі час аднаасобна кіраваў краінай, то ягоным нашчадкам рэдка ўдаецца захаваць рэжым у ранейшым выглядзе, часцей за ўсё адбываецца яго трансфармацыя. Так было пасля смерці Іосіфа Сталіна ў СССР, Франсіска Франка ў Іспаніі, Іосіфа Броз Ціта ў Югаславіі і нават Маа Цзэдуна ў Кітаі. Мы бачым, як цяжка захаваць ранейшы рэжым цяперашняму прэзідэнту Венесуэлы Нікаласу Мадуры пасля смерці харызматычнага Уга Чавеса….

Таму ў цяперашняга беларускага ўладара няма іншага выйсця, як заставацца ва ўладзе пажыццёва. Парадокс у тым, што Лукашэнка — не толькі архітэктар і стваральнік гэтай сістэмы, але і яе закладнік. Ён не можа з яе выйсці, пакінуць сваю пасаду, нават калі б і хацеў. І гэта сапраўдная трагедыя, тупік, як для грамадства, дзяржавы, так і для самога Лукашэнкі. І нейкага легальнага варыянту выйсця з яго я не бачу.

*(скарочана)*

**Валер Карбалевіч**
**"Новы Час"**

ПРАПАНОВА

# ДАВАЙЦЕ ГАВАРЫЦЬ ПРА НАША ЖЫЦЦЁ

**Галоўны рэдактар «Советской Белоруссіі» Павел Якубовіч выступіў з праграмнай заявай у «Клубе рэдактараў» на «Беларусь-1», заклікаўшы абмяркоўваць жыццё Беларусі, а не расійскія гісторыі.**

«Час нам, грамадзянам Беларусі, менш жыць жыццём іншай дзяржавы. Што нам гэтая гнюсная гісторыя вакол фільма „Мацільда"? Усе гэтыя звар'яцелыя барацьбіты, ваяўнічыя крыжакі... Нам гэта навошта? У нас гэтага няма і быць не павінна. Што нам гісторыя з гэтай Сабчак? ...

Да чаго я заклікаю? Усе мы, грамадзяне Беларусі, павінны ўсё больш і больш разумець, што ўжо 25 гадоў мы — незалежная еўрапейская дзяржава. А мы ўсё жывём дробнымі жарсцямі нейкіх маскоўскіх акцёраў, нейкімі скандальчыкамі, нейкімі Сабчак.

Давайце жыць беларускім сёння і тут. У нас адбываюцца не такія глабальныя і скандальныя падзеі, але мы жывём сваім жыццём, каб зрабіць наша жыццё нармальным ... Я гатовы гаварыць пра калег Лябедзьку, Статкевіча і іншых з нашмат большай цікавасцю, чым гісторыі Сабчак, нараджэнне ці гібель нейкай зоркі ў Расіі. Мы павінны ўрэшце разумець, што мы краіна».

Такім чынам Якубовіч адрэагаваў на прапанову старшыні Белтэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзькі абмеркаваць магчымы ўдзел Ксеніі Сабчак у прэзідэнцкіх выбарах у Расіі, а таксама развагі кіраўніцы холдынга «Мінск-Навіны» Кацярыны Дубінскай пра смерць артыста Дзмітрыя Мар'янава і праблемы ў сям'і Армэна Джыгарханяна.

**"Наша Ніва"**

РАСІЯ–БЕЛАРУСЬ

# ЗРАБІЦЬ ПАСТЫ НА МЯЖЫ ЗЬ БЕЛАРУСЬСЮ

**Памежныя пасты паміж Беларусьсю і Расеяй могуць зьявіцца на аўтастрадах і чыгунцы ўжо вясной 2018 году. Пра гэта заявіў сёньня намесьнік кіраўніка Міністэрства ўнутраных спраў Расеі Аляксандар Гаравы, паведамляе "Інтэрфакс".**

Паводле расейскага боку, гэта зьвязана з чэмпіянатам сьвету па футболе, які пройдзе ў Расеі ў наступным годзе.

«Мы дастаткова жорстка будзем працаваць з траўня», — заявіў Гаравы ў ходзе пасяджэньня Савету Фэдэрацыі.

Магчымасьць зьяўленьня пастоў ён патлумачыў занепакоенасьцю расейскіх уладаў з нагоды адкрытасьці мяжы ва ўмовах, калі ўлады Беларусі дазволілі грамадзянам 80 краінаў сьвету прыяжджаць у сваю краіну бязь візы.

«Калі мы не ўніфікуем міграцыйнае заканадаўства і не пяройдзем на адзіную міграцыйную карту да сакавіка, урадам РФ папярэдне прапрацавана пытаньне аб уводзеньні часовых памежных пастоў як на аўтатрасе, так і на чыгунцы без прыпыненьня пасажырскіх цягнікоў», — сказаў Гаравы.

Першы намесьнік кіраўніка МУС падкрэсьліў, што ягонае ведамства турбуе таксама выкарыстаньне транзыту празь Беларусь людзьмі, якіх шукаюць расейскія праваахоўныя органы ў сувязі з падазронымі паездкамі ў Сырыю.

«Яны сёньня вяртаюцца ў Кіеў, едуць па дарозе, дзе таксама мяжа адкрытая, потым па Смаленскай трасе да нас», — сказаў Гаравы.

У студзені 2017 году прэзыдэнт Беларусі Аляксандар Лукашэнка сваім указам дазволіў грамадзянам 80 краінаў сьвету ўяжджаць у краіну бязь візаў на тэрмін, ня большы за 5 сутак. У пачатку лютага Фэдэральная служба бясьпекі Расеі аднавіла на мяжы зь Беларусьсю памежную зону, скасаваную ў 1995 годзе пасля падпісаньня Дамовы аб дружбе, добрасуседзтве і супрацоўніцтве паміж Расеяй і Беларусьсю.

**"Радыё Свабода"**

НАШЫ ЗАРОБКІ

# ЗАРПЛАТУ В ТЫСЯЧУ РУБЛЕЙ ТОЛЬКО НА БУМАГЕ

**Даже если средняя зарплата в Беларуси достигнет тысячи рублей, то большинство будет получать намного меньше. И меньше всех будут получать в раёнах Витебщины, которая возглавляет список беднейшего региона страны.**

Только в двух регионах Беларуси средние зарплаты превысили пресловутую тысячу рублей, но Министерство труда и социальной защиты обещает до конца года выполнить доведенный президентом показатель. Эксперты не видят в этом смысла.

**В самом бедном регионе получают в 2,5 раза меньше, чем в самом богатом**

За восемь месяцев этого года только в Солигорском районе и Минске номинальная начисленная средняя заработная плата превысила тысячу рублей. В Солигорском районе она составила 1169,1 рубля, а в Минске — 1101,7 рубля. В тройку самых богатых регионов также попал Минский район. Здесь средняя зарплата составила 949,6 рубля.

Самым бедным по-прежнему остается Шарковщинский район. Здесь средняя зарплата за восемь месяцев составила 462,8 рубля. Она в 2,5 раза ниже, чем в Солигорском районе. В тройку самых бедных регионов также входят Бешенковичский (508,5 рубля) и Ушачский (511,7 рубля) районы.

Основной причиной разбежки в зарплатах эксперты считают наличие либо наоборот отсутствие крупных производств в регионе. Например, в Солигорском районе работает «Беларуськалий», а в Минске — Парк высоких технологий (ПВТ), где традиционно получают самые высокие зарплаты в стране.

«В стране есть ограниченное количество предприятий, где люди получают зарплату, которая сильно выше средней по стране. В первую очередь, это программисты, которые работают в компаниях, сконцентрированных в ПВТ. Также очевидно, что высокую зарплату получают те, кто имеет отношение к калийным удобрениям. Отсюда понятно, почему такие высокие средние зарплаты в Солигорском районе и Минске», — объясняет старший аналитик форекс-брокера «Альпари» Вадим Иосуб.

…«Вертикальщики понимают, что могут оказаться виноватыми при любом раскладе событий — за то, что не достигли этой тысячи либо за то, что искусственно нарисовали эту тысячу. Сейчас больше места для интерпретаций и поисков объяснений по сравнению с 2010 годом», — считает старший научный сотрудник Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) Дмитрий Крук.

**Эксперты не видят смысла в доведении средней зарплаты до тысячи рублей**

Во время недавней прямой телефонной линии министр труда и социальной защиты Ирина Костевич признала, что в некоторых регионах рост средней зарплаты отстает от установленного графика, но пообещала, что плановое задание по достижению уровня заработной платы в среднем по стране в тысячу рублей будет выполнено. За восемь месяцев этого года она составила 784,5 рубля.

«С сентября повышена тарифная ставка первого разряда для работников бюджетной сферы, а также заработная плата госслужащих. Это окажет свое влияние на показатели роста зарплаты в целом по стране», — сказала Ирина Костевич.

Дмитрий Крук видит в гонке за зарплатой чисто политические корни. По его мнению, экономических оснований для такого уровня зарплаты нет. Эксперт полагает, что белорусские власти могут постепенно прийти к средней зарплате в тысячу рублей, но более важно, чтобы этот уровень зарплаты был устойчивым.

…Даже если план по средней зарплате выполнят, то подавляющее большинство населения будет получать намного меньше этой суммы, уверен Вадим Иосуб.

Он предлагает обратить внимание на другой, более объективный принцип расчета уровня доходов — медианную зарплату, которая отражает сумму в центре зарплатного ряда и делит его на две равные части. Этот показатель всегда ниже средней зарплаты — примерно на 30%.

«Иначе говоря, когда средняя зарплата по стране достигнет тысячи, это будет означать, что приблизительно 70% населения в стране будет получать ниже этой средней. За пределами того же Солигорска и Минска ниже средней будет получать 80-90% населения», — отмечает финансовый аналитик.

Кроме того, говоря о тысяче рублей, чиновники ведут речь о средней начисленной зарплате. Но после уплаты налогов пресловутая тысяча рублей превратится в сумму порядка 850 рублей. По этим причинам Вадим Иосуб считает показатель по средней зарплате, который высшее руководство страны взяло в качестве больше не экономической, а политической цели, фиктивным. Средняя зарплата в тысячу рублей будет существовать только в отчетах чиновников.

«Когда средняя зарплата достигнет тысячи рублей, подавляющее число людей в стране этой тысячи рублей у себя в кармане не обнаружат и будут негодовать по поводу того, что власти их в очередной раз обманули. Этот показатель даже при его достижении ничего кроме разочарования и озлобления у населения не вызовет», — подчеркивает старший аналитик форекс-брокера «Альпари».

*(скарочана)*

**Александр Ярошевич**
**http://naviny.by**

"ДЗЕДАЎШЧЫНА"

# ЖАХЛІВЫЯ ПАДРАБЯЗНАСЬЦІ СЬМЕРЦІ САЛДАТА…

**Блізкія 21-гадовага Аляксандра Коржыча перадалі ў рэдакцыю Радыё Свабода фотаздымкі цела загінулага, на якім відаць вялікія гематомы. Сям'я і сябры ня вераць у афіцыйную вэрсію і дабіваюцца расьследаваньня.**

3 кастрычніка Аляксандра Коржыча нібыта знайшлі павешаным у вайсковай частцы пад Барысавым, дзе ён праходзіў тэрміновую службу. Паводле афіцыйнай вэрсіі, ён зьдзейсьніў суіцыд. Карэспандэнты Свабоды пагутарылі зь Сяргеем Дзятлам, блізкім сябрам, мужам стрыечнай сястры загінулага.

У рэдакцыі Радыё Свабода ёсьць фотаздымкі цела Аляксандра. На іх выразна відаць вялікія гематомы на галаве і тулаве.

Суразмоўца кажа, што ня верыць у афіцыйную вэрсію, як і ўсе сябры Аляксандра. Яны зьбіраюць усе магчымыя доказы таго, што Аляксандар Коржыч не зьбіраўся накладаць на сябе рукі, а таксама факты пра тое, што ў ягонай часьці была «дзедаўшчына». У панядзелак, 9 кастрычніка, сябры загінулага паедуць у Сьледчы камітэт і пракуратуру дабівацца належнага расьсьледаваньня.

Як распавёў Сяргей Дзяцел, да войска Аляксандар Коржыч працаваў на станцыі тэхнічнага абслугоўваньня, рамантаваў аўтамабілі. Суразмоўца кажа, што Аляксандр вельмі любіў аўтамабілі і добра разьбіраўся ў іх. Перад сыходам у войска ён прадаў сваю машыну, каб на вяртаньні купіць іншую.

Аляксандар Коржыч быў адзіным дзіцём у сям'і, найбліжэйшай, апроч бацькоў, яму была стрыечная сястра, з мужам якой, Сяргеем Дзятлам, пагутарылі карэспандэнты Свабоды.

**За два тыдні да сьмерці абяцаў маці прыйсьці ў звальненьне**

«Яму ад войска ўвесь час адтэрміноўкі давалі, у яго былі праблемы з сэрцам. А апошні раз выдалі позву, прызналі годным. Ён сказаў, што бегаць ня будзе, адслужыць гэтыя паўтара года, і не будзе ніякіх праблем.

Перад тым як ісьці ў войска, пачаў рамонт у кватэры, паставіў кухню новую... А за два тыдні да сьмерці тэлефанаваў маці і казаў, што яму абяцаюць звальненьне на 3 дні, то ён прыедзе і даробіць адкосы на вокнах.

Апошнія гады я зь ім зьблізіўся, ён стаў больш дарослы, усім дапамагаў, хто да яго зьвяртаўся, і мне дапамагаў. Ён ніколі не адмовіў нікому. Трэба некуды паехаць хоць уначы — без праблемаў».

**З карткі Аляксандра Коржыча ў час яго службы здымалі грошы ў розных гарадах**

«Калі ён сыходзіў у войска, то з сабой узяў банкаўскую картку. На ёй было каля 500 рублёў. Усё выявілася таму, што гэтая банкаўская карта была прывязаная да ягонага айфона, які ён пакінуў у сябра перад сыходам у войска. У прыкладаньні на тэлефоне было бачна, што з гэтай карты ўсё здымаецца і здымаецца, і, у прынцыпе, зараз гэта можна ўжо поўнасьцю ўсё адсачыць. Зьняцьцё грошай адбывалася ў розных месцах — і ў Жодзіне, і ў „Барысаў-Арэне", і ў Менску.

Ужо потым выявілася, што ўвесь час яму пераводзілі грошы — сваякі і сябры. Ён тэлефанаваў і прасіў у каго 30 рублёў, у каго 50. Але ў той час ніхто ня ведаў, што так шмат іх пераводзіцца. У яго было на карце 500 рублёў, і дзесьці 400 яшчэ накідалі сябры. Ну вось — дзесьці 900 рублёў за 4 месяцы ў яго „пайшло".

Нам пасьля ўжо распавялі іншыя салдаты, што суткі знаходжаньня ў гэтай частцы, каб цябе не білі, „каштуюць" 15 рублёў. Гэтыя грошы трэба плаціць сяржантам. Куды далей гэтыя грошы сыходзяць, ніхто ня ведае. У галаве не ўкладаецца, што так можа быць.

Калі мама да яго езьдзіла, то ён ёй распавядаў, што грошы вымагаюць. Пра фізічны гвалт не казаў. Здавалася, усё было нармальна, але апошнія два тыдні да сьмерці ён перастаў тэлефанаваць зусім. А калі і тэлефанаваў, то зь нейкіх чужых тэлефонаў. Пасьля таго, як знайшлі яго мёртвым, пры ім тэлефону не было. А ягоны тэлефон апынуўся ў аднаго зь сяржантаў. Гэта мне сказаў камандзір, калі мы зь ім гутарылі. У ліставаньні зь сябрамі ён паведамляў, што яму 4 тыдні заставалася да пераводу ў Слонім, казаў, што гэтыя 4 тыдні датрывае і перавядзецца адтуль».

**«Яго не маглі знайсьці»**

«Яны яго не маглі знайсьці, ён зьнік, і яны яго шукалі 5 дзён па частцы. 26 верасьня яго выпісалі з мэдроты, а пра ягоную сьмерць паведамілі 3 кастрычніка. Мы задавалі пытаньне, чаму нічога не паведамлялі сваякам за гэтыя дні, нам сказалі, што ў мэдроце думалі, што ён ужо ў частцы, а ў частцы думалі, што ён яшчэ ў мэдроце.

Нам не хацелі паказваць цела. Калі мы прыехалі ў Барысаў, першае пытаньне, якое нам задалі, — „як вы так хутка змаглі дабрацца?" Мы 410 кілямэтраў праехалі за тры гадзіны. Маме патэлефанавалі дзесьці ў 21.40, яна патэлефанавала нам, прыехалі сябры яго, і мы праз хвілін трыццаць ужо выехалі. І прыехалі ў 2.30 ночы. Яны нас не чакалі. Яны ведалі, што бацька Сашы не жыве з мамай, ведалі, што мама адна.

Нас запрасіў адзін з камандзіраў. Усе апускаюць вочы долу. Ніхто нічога не тлумачыць. Нам казалі, што едзьце, маўляў, дадому, мы яго прывязем. Мы запярэчылі, што ня зьедзем, пакуль нам яго не пакажуць. Уначы нам не паказалі ані яго, ані месца, маўляў, працуе Сьледчы камітэт. Мы заначавалі ў Барысаве і запатрабавалі раніцай, каб нам паказалі яго. Нам паказалі яго толькі а 17-й гадзіне».

**Што такое «сабачая сьмерць»?**

«На галаве ў яго крывападцёк, і нейкія незразумелыя нібыта тоненькія адтуліны, як быццам яго шылам ці нечым такім калолі.

Ананімны вайсковец паведаміў нам, што яго знайшлі павешаным са зьвязанымі нагамі і на галаве было нешта кшталту балаклавы — у іх гэта называецца „сабачая сьмерць". Накідваецца рэмень, які зацягваецца на шыі, а расьцягнуць яго немагчыма, таму што такі мэханізм там.

Я сам доктар, калі паказалі яго, першае пытаньне да судовага мэдыка было, чаго такая странгуляцыйная баразна. Калі чалавек сам вешаецца, яна ня можа быць аднолькавай па ўсёй акружнасьці. Калі ж чалавека душаць, у яго атрымоўваецца завершаная странгуляцыйная баразна. А калі чалавек вешаецца, яна больш выяўляецца сьпераду, а ззаду — меней, таму што ціск ззаду меншы.

Потым, калі запыталі ў сьледчага, каб патлумачыў, што здарылася, ён нам адказаў, што тут і тлумачыць няма чаго — гэта суіцыд».

**«Ужо ня першы выпадак»**

«Гэта ўжо ж ня першы выпадак такі ў гэтай частцы за год. І маёй жонцы тэлефануюць цяпер маці хлопцаў, якія загінулі да гэтага. І ўсё — адзін у адзін.

Хлопчык, які загінуў да Аляксандра, незадоўга патэлефанаваў бацькам, распавёў ім пра сваю сытуацыю, бацька патэлефанаваў начальніку часткі, прыгразіў, што калі не разьбяруцца, то зьвернецца ў пракуратуру. Праз дзьве гадзіны сынператэлефанаваў, што пытаньні ўсе ўрэгуляваныя, усё добра. А праз 12 гадзін бацькам патэлефанавалі і паведамілі, што ён павесіўся.

Калі было пахаваньне, прыехалі ж сюды і вайскоўцы. Пачалі зьбірацца Сашавы сябры, і калі ўжо ў двары не было дзе паркавацца, стаяла пад сотню чалавек, то прыехала міліцыя і стала паміж вайскоўцамі і людзьмі. Вельмі баяліся, што будзе самасуд.

Мама — просты чалавек, яна слаба разумее, як дабівацца. У яе зараз адна толькі мэта — каб Сашу адпелі. Бо ніхто адпяваць не захацеў. А я і сябры Сашы — мы будзем займацца расьсьледаваньнем».

**«Радыё Свабода»**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 29.10.2017 у 15.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.